 

(Працяг са стар. 1)

# ЮБІЛЕЙ „ВАСІЛЁЧКАЎ“

шай краіне можна толькі пачуць ад калектываў Беларускага таварыства.

Хор мае багаты рэпертуар, у якім таксама шмат польскіх, рускіх і ўкраінскіх песень. Усе песні выконваюцца на высокім мастацкім узроўні, усе яны падкупляюць слухачоў прыгажосцю мелодыі і зместу. Але асабліва прыемным з'яўляецца тое, што хор выконвае многа народных беларускіх песень: „Куды ляціш, зязюленька“, „Пасылала баба дзеда ў луг па каліну“, „Кума, мая кумачка, дзе жывеш“, „Біла жонка мужа“, „Баба Еўка, дзед Тамаш“, „Камар“ і шмат іншых выклікаюць усмешку і прыемны настрой. Хочацца распазнаць галасы Васі Антыпюка, Уладзіміра Жапко, Веры Раеўскай, Веры Цар, Валянціны Лукашук і іншых, але гэта не ўдаецца — галасы зліваюцца ў адзінае цэлае і разам з музыкай акампаніятара рассыпаюцца па прыгожай зале дома культуры.

Захапляліся прысутныя выкананымі жаночаю групаю хору песнямі „Белая хусцінка“ і „Беласточчына“ (яе напісаў ліцэіст Бельскага беларускага ліцэя Юрка Баена, а музыку напісаў мастацкі кіраўнік „Васілёчкаў“ Сяргей Лукашук).



*Жаночая група „Васілёчкаў“ на фінальным аглядзе „Беларускай песні“.*

Члены дуэтаў — Аляксандр Раманюк, Ананій Ясюк, Анна Кубай, Яўгенія Навакоўская, Оля Самоцік і Аляксандр Краўчук паказалі прысутным, што маюць звонкія моцныя галасы і індывідуальны спосаб выканання. Вельмі ўсім таксама спадабалася выступленне сола Аляксандра Раманюка ў песні „Зорка Венера“ і рускай песні „А всё-такі море“.

Канцэрт упрыгожвала балетная група беларускага ліцэя, якая штораз часцей выступае з калектывам. Пад кіраўніцтвам Галіны Карпюк і Янкі Крупы падрыхтавала яна тры танцы: „Лявоніха“, „Баярскі“ і „Карагод“. З танцамі „Васілёчкі“ выглядаюць яшчэ больш „квітнеючымі“.

Да гэтага канцэрта, які адбыўся 18 студзеня, „Васілёчкі“ асабліва добра падрыхтаваліся. Быў ён не звычайны. Ім „Васілёчкі“ адзначалі сваё дзесяцігоддзе, быццам падсумоўваючы свае дасягненні. 10 год з песняй, 350 канцэртаў на многіх сцэнах — гэта не мала. А выступалі яны і на вёсках свайго і суседніх паветаў, на мерапрыемствах Беларускага таварыства, на яго фэстынах, аглядах і з'ездах, на павятовых дажынках і акадэміях, на ўрачыстасці ў тэатры імя Вянгеркі і з нагоды 40-ой гадавіны „Грамады“, на цэнтральных дажынках у Беластоку, у сямі гарадах Быдгаскага ваяводства па запрашэнню Куяўска-паморскага таварыства культуры і на антэне польскага радыё...

Ёсць што ўспомніць, ёсць што падсумаваць. Можна гаварыць аб заслугах харавога калектыву, аб яго добрых выхаваўчых песнях, аб яго поспехах у песенных аглядах, дзе заваёўвалі першыя месцы, аб яго музычных кіраўніках...

І гаварылася аб усім гэтым пасля юбілейнага канцэрта. Сакратар прапаганды павятовага камітэта ПАРП у Бельску Юзэфа Баячук дала высокую ацэнку „Васілёчкам“ і выказала шчырую падзяку ўсім членам за іх працу ў калектыве, а пасля з намеснікам начальніка павятовага ўпраўлення Янам Бельскім уручыла калектыву і ўсім яго членам дыпломы. Некаторыя асобы, найбольш заслужаныя ў калектыве, атрымалі грашовыя ўзнагароды. Усе сардэчна ўспрынялі вестку, што начальнік павятовага ўпраўлення Дзімітр Ігнацюк у якасці падарунка закажа новыя багатыя касцюмы для харыстаў.

А старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік ад імя ГП падарыў „Васілёчкам“ многа цёплых слоў і магнетафон.

Усе асабліва падкрэслівалі вялікую працу тых членаў калектыву, якія ад самага пачатку дзейнічаюць у хоры.

А пачаткі не былі лёгкія. Члены прэзідыума аддзела Уладзімір Раеўскі, Якуб Базылюк, Мікола Серадзінскі і іншыя па хатах хадзілі, прасілі і даказвалі, што неабходны ў Бельску калектыў, які будзе спяваць беларускія песні. Першы мастацкі кіраўнік Аляксандр Лукашук не мала папрацаваў, каб з'яднаць людзей, каб зрабіць першыя крокі на сцэне.



*Саліст „Васілёчкаў“ Аляксандр Раманюк.*

Справа не лёгкая, бо кожны мае сям'ю, працу, сямейныя абавязкі, ды, апрача таго, не заўсёды было дзе рабіць спеўкі.

Пасля А. Лукашука калектывам кіраваў Юрка Шурбак, а пазней Міхась Артышэвіч. Ад студзеня 1970 года музычным кіраўніком і адначасова акампаніятарам аж па сёння з'яўляецца Сяргей Лукашук — дырэктар павятовага дома культуры. Тое, што гэты дырэктар з'яўляецца кіраўніком хору, дае гарантыю, што калектыў будзе развівацца яшчэ лепш, што ў яго ўключацца новыя людзі і даб'ецца ён новых вялікіх поспехаў, чаго ад усёй душы яму жадаем.

**М. Хмялеўскі**




# ЖАМЧУЖЫНЫ ПРАСТАТЫ І ПРЫГАЖОСЦІ

Беларуская савецкая навука адводзіць многа ўвагі вуснай народнай творчасці, асабліва ў апошнія гады выйшла шмат кніг і артыкулаў, прысвечаных агульным праблемам беларускага фальклору або яго паасобным жанрам. Пры гэтым не абмінаюцца і справы збірання і сістэматызацыі твораў вуснай народнай творчасці, якія ў сучасны момант бытуюць на тэрыторыі рэспублікі. У выніку шматлікіх збіральніцкіх экспедыцый у архівах Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, філалагічных аддзяленнях педагагічных інстытутаў, дамах культуры і народнай творчасці сабрана ў суме дзесяткі тысяч розных запісаў народных твораў. Адначасова побач з паступовым выхадам у свет шматтамовага выдання „Беларускай народнай творчасці“, якое здзяйсняе Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і якое разлічана на звыш дваццаць аб'ёмістых тамоў, нядаўна пачаў выходзіць новы цыкл — „Беларускі фальклор у сучасных запісах“. Вельмі каштоўныя пазіцыі паявіліся ў гэтым цыкле. Для прыкладу, В. Б. Захарава ў 1973 г. выдала зборнік вуснай народнай творчасці, запісанай у апошнія гады ў Брэсцкай вобласці, а Н. С. Гілевіч у тым жа годзе сярод 2200 запісаў народных песень, якія захоўваюцца ў архіве Беларускага дзяржаўнага універсітэта, выбраў і адрэдагаваў 937 твораў, што паходзяць з сямі вёсак Міншчыны.

Цяпер жа перад намі з цыкла „Беларускі фальклор у сучасных запісах“ элегантна выдадзены ў 1974 г. том **„Песні народных свят і абрадаў“**, выбраных і адрэдагаваных вядомым сучасным беларускім паэтам і навуковым працаўніком Беларускага дзяржаўнага універсітэта **Нілам Сямёнавічам Гілевічам.** У ім змешчана каля 1150 твораў, што выбраны, як піша ва ўступе яго ўкладальнік, *„з аргомністай колькасці запісаў“*, якія былі сабраны студэнтамі аддзялення беларускай мовы і літаратуры універсітэта ў часе фальклорнай практыкі ў гадах 1961-1971. У зборніку знаходзім багаты выбар песень т.зв. земляробчага каляндарнага цыкла (калядныя, шчадроўскія, масленічныя, раннія вясннянкі, валачобныя, юраўскія, зелянцовыя, купальскія, пятроўскія, жніўныя, восеньскія, а таксама талочныя, карагодныя і гульнёвыя) і сямейнага цыкла (хрысцінныя і вясельныя).

Н. С. Гілевіч піша, што пры складанні тома „Песні народных свят і абрадаў“ было ў яго і першым і апошнім клопатам — *„паказаць беларускую песенную паэзію менавіта як паэзію ў самым сапраўдным значэнні гэтага слова“*. І трэба прызнаць, што вытанчаны густ яго як паэта і эрудыцыя фалькларыста далі дасканалы плён — у выданні знаходзім безліч сапраўдных жамчужын беларускай народнай паэзіі. Тых непераўзыйдзеных мастацкіх вобразаў, што створаны безыменнымі майстрамі, з'яўляюцца бездакорнымі ўзорамі выкарыстання звычайнага слова для выражэння самых складаных і тонкіх думак і адчуванняў. Іменна таму зборнік прадстаўляе вялікую каштоўнасць усім тым, хто мае дачыненне з мастацкім словам і літаратурнай творчасцю, у ім знойдзе невычэрпную крыніцу прыкладаў прастаты, выразнасці і дакладнасці паэтычнага выразу. Ён набывае асаблівую каштоўнасць у наш час, калі ў пагоні за т. зв. навізной некаторыя аўтары любуюцца засмечваннем нашай мовы самымі бессэнсоўнымі штучнымі словаўтварэннямі.

Ужо нават павярхоўнае знаёмства з тэкстамі песень, змешчаных у зборніку, прыводзіць да надта цікавых вывадаў аб пашыранасці значнай колькасці твораў на ўсім беларускім этнічным абшары. Вось хоць бы матыў калядкі *„А красна, ясна ў лузе каліна...“* (стар. 24), запісанай у вёсцы Хількавічы Чавускага раёна на Магілёўшчыне, аўтар сённяшняга артыкула запісаў у 1972 г. у вёсцы Кленікі Гайнаўскага павету на Беласточчыне (глядзі „Ніва“ ад 7 студзеня 1973 г.), тое самае можна сцвердзіць у выпадку валачобнай песні *„Ой, на моры на сіненькім...“* (стар. 108) з вёскі Ляшчатка Валожынскага раёна на Міншчыне і *„Тонка-тонка канапелька...“* з вёскі Тарнопаль Гайнаўскага павету („Ніва“ ад 9 красавіка 1972 г.) або валачобнай *„Ой, рана, рана сонейка іграла...“* (стар. 111-112) з вёскі Курмялёўка Лепельскага раёна Віцебскай вобласці і *„Ходзіць пава па гуланьцы, гэй, віно!..“* з вёскі Гураны Сакольскага павету („Ніва“ ад 5 студзеня 1975 г.) ці юраўскай *„Божа наш, святое Юр'я...“* (стар. 126-7) з вёскі Вайдзікі Вілейскага раёна на Міншчыне і *„Святы Юрэ-Рыгорэ...“* з вёскі Дабрывада Гайнаўскага павету („Ніва“ ад 12 мая 1974 г.). Асабліва многа аднолькавых матываў хрысцінных песень, напрыклад, з аднолькавым зачынам, але крыху розным зместам *„А у нашай Кацярынушкі...“* (стар. 354) з Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці і з вёскі Гураны Сакольскага павету („Ніва“ ад 29 снежня 1974 г.) або вясельных: *„Звінела каморачка, звінела...“* (стар. 382) з вёскі Папялёва Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і гэтая ж, толькі больш развіты варыянт, з вёскі Мастаўляны Беластоцкага павету („Ніва“ ад 16 снежня 1973 г.). Такіх прыкладаў можна было б прывесці дзесяткі.

Словам выхад у свет тома „Песні народных свят і абрадаў“ — адметная з'ява не толькі для фалькларыстыкі, але і для сучаснай літаратурнай творчасці. А, звяртаючыся да нашага панадворка, пакуль што можна толькі расквітацца жалем, што багатая беларуская народная творчасць Беласточчыны дагэтуль не дачакалася аніводнага спецыяльнага кніжнага выдання.

**Мікалай Гайдук**

## Наша галерэя



*І. Дамагайла, Маладзечна. Шкатулка (дрэва, інкрустацыя).*



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Традыцыйны вечар

Вялікі карнавальны баль адбыўся ў студзені ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы. Гайнаўскі аддзел БГКТ штогод арганізуе для сваіх актывістаў і сімпатыкаў такія вечарыны. Аб гэтым ведаюць усе на Гайнаўшчыне, і беларускія карнавальныя балі карыстаюцца вялікай папулярнасцю.

Сярод прысутных было многа гайнаўскіх лекараў, інжынераў, настаўнікаў і іншых прыхільнікаў Беларускага таварыства. Іграў аркестр з Дубіч Царкоўных у складзе: Яўген Леўчук, Анатоль Канопля, Мікалай Чурак і кіраўнік Грыша Шварц. Ігралі яны многа беларускіх мелодый з рэпертуару вядомага беларускага калектыву „Песняры".

Апоўначы аркестр зайграў „многая лета". Адны другім жадалі ўсяго найлепшага ў новым годзе. І далей гучалі народныя беларускія, рускія і польскія песні. Трапна будзе назваць гэты вечар — вечарам песні і танца гайнаўскага актыву БГКТ. А аркестр з Дубіч удзельнікі балю назвалі „Нашымі песнярамі" і, здаецца, вельмі трапна. (вб)

## Чаму так?

Кожны з нас ведае, што пісьманосцам зімою цяжка разносіць пошту. Не бяда яшчэ, калі паштовы тавар (газеты, пісьмы, інш.) у пару прыходзіць на пошту. Пісьманосцы тады хутка разбяруцца, што куды, кладуць у свае сумкі і гайда на вёскі.

Наогул паштовы тавар прыходзіць пасля 8 гадзіны раніцы. Бываюць аднак выпадкі, што прыходзіць каля 11 гадзіны. Гэтак бывае пераважна ў пятніцу, калі ўвогуле найбольш газет прыходзіць. Пакуль пісьманосцы разбяруцца ў гэтых газетах, ужо і поўдзень. І няма магчымасці аб'ехаць свае вёскі. Каб нават лопнуў, нічога не паможа.

Для прыкладу падам дзень 10 студзеня (пятніца). Пошта прыйшла позна ва ўсе ўстановы, якія размешчаны на поўдзень ад Гайнаўкі. Пісьманосцам было вельмі цяжка. Чаму так дзеецца? Трэба падумаць, як тут палепшыць справу.

**П. Д.**

## Клопаты з чысткай

Даўней хімічная пральня ў Гайнаўцы знаходзілася пад кіраўніцтвам аддзела камунальнай гаспадаркі гарадской рады нарадовай. У апошнія гады яна перайшла, здавалася б, у лепшыя рукі — да павятовага кааператыва паслуг.

Камісія гандлю і паслуг, якая працуе пры пасялковым камітэце № 4 (6 асоб — старшыня Пятро Мароз) правяла размовы з кліентам пральні і сама пабывала ў ёй. Камісія сцвердзіла, што працаўнікі пральні не спраўляюцца з работай. Прыёмшчык пральні, пані Ткач, не прымае бялізны надта бруднай (а навошта чыстую мыць?), а ўборы прымаюць толькі на экспрэсовую чыстку, за што плаціш на 50% даражэй, але чысцяць іх так, як і звычайна, па некалькі дзён.

У сувязі з гэтым некаторыя жыхары Гайнаўкі возяць сваю вопратку на чыстку ў Беласток. Ці ж гэта работа?!

**Раса**

## Белавежскі 1974 год

У 1974 г. Белавежу наведала каля 100 тыс. экскурсантаў і турыстаў, у тым ліку звыш 4,5 тыс. замежных з 54 дзяржаў. Найбольш іх прыехала з ГДР, Чэхаславакіі, СССР, ФРГ, Вялікабрытаніі і ЗША. Вялікую папулярнасць, як і штогод, меў прыродазнаўчы музей БНП (86.264 наведвальнікаў). Многія таксама наведалі запаведнікі прыроды і зуброў.

Лягчэй у мінулым годзе было атрымаць начлег і харчы. Палепшылася сітуацыя з белавежскімі сувенірамі. Гандаль запрапанаваў новыя ўзоры, якія турыстам адразу спадабаліся. „Цэпэлія" адкрыла ў пачатку турыстычнага сезона свой новы павільён. Павялічыўся лік экскурсаводаў ПТТК, хаця яшчэ ў нядзелі ці святочныя дні не хапае іх усім экскурсіям.

На жаль, як мы ўжо сігналізавалі, няма ў Белавежы вельмі патрэбных тут даведнікаў на замежных мовах. Асабліва дамагаюцца іх немцы, англічане і французы. Варта, каб хтосьці гэтым урэшце сур'ёзна заняўся. Вынікае таксама патрэба аднаўлення манаграфіі „Нацыянальны парк у Белавежскай пушчы" пад рэдакцыяй дац. др Я. Б. Фалінскага.

**П. Байко**

## Як развіваецца жывёлагадоўля ў Слабодцы

Вёска Слабодка належыць да гміны ў Нараўцы. Гмінныя ўлады дзіўна дапамагаюць гаспадарам Слабодкі ў развіцці жывёлагадоўлі.

У месяцы верасні наш солтыс разнасіў „наказы" платы Воднай супольцы ў Гайнаўцы за догляд і мінеральнае ўгнаенне пашы (супольнай з Лукой), дзе ўсё лета пасуцца каровы. Гэтая заплата раздзяляецца па колькасці кароў, якія пасвіліся летам. Кожны гаспадар плаціць ад сваіх штук. І ўбачылі мы, што гміна павышае колькасць штук нашых кароў, за якія трэба плаціць. Гэтых „наказаў" мы не прынялі, а гміна адаслала іх у Гайнаўку. Праз два тыдні атрымалі мы пісьмовыя загады з Гайнаўкі аб неабходнасці заплаты ўжо разам з працэнтамі. Цяпер сялянам трэба было ехаць ужо ў Гайнаўку па гэтай справе. А там ім сказалі: „Калі гміна напісала, дык трэба заплаціць".

Вельмі дзякуем гмінным уладам за іх старанні і просім цяпер даць грашовую дапамогу, каб мы змаглі заплаціць за каровы, выгадаваныя на паперы прадстаўнікамі нашай гміны.

**І. Сухадола**

## Курсы для сялян

У школе ў Астраўку (Сакольскі павет) у канцы снежня 1974 г. адбыўся экзамен на кваліфікаванага гаспадара — майстра прадукцыі. Экзамен перад дзяржаўнай камісіяй (у складзе: мгр інж. Антон Баенскі і інж. Францішак Чалпінскі) выказаў надта высокі ўзровень ведаў у мясцовых сялян, з якіх найлепшымі былі В. Кузьма і Г. Рысь з Астраўка і З. Чаромха з Пачапка.

Вялікія словы прызнання належацца самім гаспадарам, якія са шчырым зацікаўленнем успамінаюць новыя, лепшыя метады працы. Гэта дае ўпэўненасць, што пастановы аб павышэнні ўзроўню сельскагаспадарчай прадукцыі і жывёлагадоўлі да мільёна штук на Беласточчыне ў бліжэйшыя гады будуць выкананы.

З думкай аб гэтым і арганізавала Шудзялаўская гміна тры курсы кваліфікаваных гаспадароў. Гэта паможа ў спецыялізацыі, сімптомы якой ужо відавочныя ў гміне.

Разумнае становішча мясцовых улад можа і павінна стаць прыкладам добрай работы ў сельскагаспадарчай прадукцыі для іншых.

**Я. Бандарук**




**М. Шаховіч.** Вершы „Новы год" і „Лабірынт дурнаты" будзем друкаваць.

**Валянцін Антанюк.** „Каляды" можна друкаваць.

**Ян Нікіцюк.** Верш „Сэрца" можна надрукаваць.

**Толік.** Два апошнія абзацы ў вершы „Усё мінае" някепскія, іх надрукуем.

**Антон Мордань, Гайнаўка.** Атрымалі мы ваш ліст: „Я ў 1916 годзе хадзіў у школу. Жыў тады на Палессі ў Пружанскім павеце і там нарадзіўся 24.XII. 1903 г. (ст. ст.), а вучыўся ў рускай школе ад 1912 года. Пасылаю вам на добры ўспамін запамятаныя фрагменты двух вершыкаў з таго часу: 1) Ой, стучыць і гручыць, дробны дожджык ідзе. А хто ж там далінoю ў нашу школу ідзе? Адазваўся хлапец на зялёным лугу: гэта я, гэта я ў вашу школу іду. Я ў школу іду, каб мне цёмным не быць, праз навуку-святло каб сябе прасвяціць. Каб старонкі свае не зракацца нідзе, каб за праўду стаяць, не даць ходу бядзе. 2) Пад маім крывым сярпом жыта хутка жнецца, сноп за снопам у рады покладам кладзецца. І не чую спёкі я сонца вагнявога, і не чую, што баляць рукі, крыж і ногі.

Можа яшчэ нешта вам напішу, ды толькі не прысылайце грошай за напісанае, бо ў вас у рэдакцыі і так многа расходаў, а можа і не многа даходаў. Спадабалася мне выступленне народных артыстаў з Белавежы".

Маем да вас адну просьбу: пішыце, што бачыце вакол сябе — добрае і менш добрае, абы было праўдзівае.

**Васіль Петручук.** Гумарэску надрукуем.



## Галава не баліць

У Трафіма Панфілюка на панадворку — мора вады. Месца нізкае, а ў мінулым годзе безупынна ішоў дождж, і сапраўды тут можна ўтапіцца.

Хаця ў Дубічах Царкоўных месцяцца розныя ўлады, у тым ліку і дарожныя, аднак не бачаць яны, як стары чалавек мучыцца ў балоце.

Вада тут не мае ніякага адходу. Абавязкова трэба пралажыць мосцік на вуліцу, і тады вада пацячэ на другі бок вуліцы — на луг. Там няма блізкіх будынкаў, і нікому яна не будзе перашкаджаць.

Мясцовыя ўлады гавораць, што няма прыказу з вышэйшай установы, каб можна было выкапаць такі мосцік, а самі яны не адважацца гэтага зрабіць.

Напэўна гміна мае права даць загад, каб выкапаць патрэбны мосцік, тым больш, што разумее гэтую патрэбу. Як гаворыцца, аднака нікому галава не баліць.

**М. Панфілюк**

## ЦІКАВЫ  ЧАЛАВЕК



Мікалай Бушко вядомы жыхар Белавежы. Ён слаўны як здольны прэпаратар лясной звярыны. Гэта цяжкая і складаная спецыяльнасць. У Польшчы прэпаратараў можна палічыць на пальцах адной рукі, таму іх вельмі цэняць.

М. Бушко запісаўся ў гісторыю Белавежы, як першы прадстаўнік народнай улады. Па ўказанню савецкага генерал-маёра Грабянцова, які вызваляў гэты раён ад немцаў, М. Бушко ў студзені 1944 г. стаў кіраўніком Прыродазнаўчага музея. Потым запісваецца на курс для ляснічых, які закончыў выдатна ў 1947 г. Яго адпраўляюць на Мазурскае паазёр'е у ваколіцу Ожыша. Але маладога Мікалая цягне ў сваю родную старонку і праз некалькі год ён вяртаецца ў Белавежу, дзе таксама працуе ляснічым.

У 1957 г. пераходзіць на працу ў музей, дзе працуе да сённяшняга дня. Ён з самага пачатку павялічвае зборы экспанатаў. Робіць чучалы птушак, некаторых відаў млекакормячых. Клапоціцца таксама пра іх кансервацыю.

У ліпені 1958 г. першы заўважыў паяўленне на рацэ Гвознай баброў. Паведаміў аб гэтым праф. А. Дэнелю, які распачаў там навуковыя даследаванні.

Мікалай Бушко любіць лес. Белавежскую пушчу знае, як свой уласны панадворак. Ведае, у якім месцы можна сустрэцца з якім зверам, ведае ўсе ўрочышчы. Захапляецца гісторыяй пушчы. Любіць пра яе апавядаць. Ён з'яўляецца адным з найстарэйшых белавежскіх экскурсаводаў.

**П. Байко**

## ◆ Акадэмія ў Дубічах ◆

Актыўнай дзейнасцю распачала новы — 1975 год моладзь з Дубіч Царкоўных. У студзені група моладзі ЗСМВ падрыхтавала акадэмію. У святліцы хлопцы паставілі вялікую ёлку і прыгожа яе прыбралі.

Усе жыхары горача прынялі выступленне моладзі з Дубіч. Акадэмія распачалася ў 15 гадзін. Святліца была запоўнена да апошняга месца (многа людзей стаяла). Многа моладзі прыйшло з Тафілаўцаў, Грабаўца, Чахоў і іншых вёсак.

У праграме былі беларускія і рускія песні, скетчы, прымаўкі і вершы. Удзельнічалі таксама вучні пачатковай школы. Вельмі прыгожа спявала вучаніца VI класа Міра Панфілюк.

Моладзь з Дубіч цудоўна выступае. Яны паказалі сцэнкі са штодзённага жыцця. Гледачам вельмі спадабалася, як варожка варажыла солтысу. Гледачы былі захоплены спевам Л. Сабалеўскай і Г. Леўчука. Усе на сцэне адчувалі сябе свабодна.

Увесь час іграў калектыў „Дружба" (у той дзень атрымаў ён такую назву), які існуе пры дубіцкім ГОК-у.

Гэтая акадэмія надоўга застанецца ў памяці дубічан. Яны спадзяюцца, што гэта не апошняе выступленне, а будзе іх больш.

**Ніна Петручук,**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

---

шаву бітком набітыя, у вагонах адбываюцца рэвізіі, арышты. Паніка! З Варшавы ўжо немагчыма прабрацца ў Галіччыну. У Кракаве — затрымліваюць уцекачоў і адвозяць іх на блізкую, рускую граніцу, дзе перадаюць жандарам...

Цягнік нарэшце рушыў.

Марыя Грыгатовіч пачакала хвілю на пероне, у натоўпе праважаючых, і раптоўна ўскочыла на ступенькі вагона. З жахам угледзела, што тое самае зрабіў нехта ля апошняга вагона. Уціснулася ў купэ.

Даехала да Гродна— дасядаліся падарожныя, бачыла ўскокваючых у апошнюю хвіліну. Супакоілася — усе скачуць, перапалоханыя.

У час стаянкі на станцыі ў Саколцы нечакана ахапіла яе трывога. Наракаючы на цеснату, круцілася на месцы, імгненна прыглядаючыся да твараў: нідзе не выкрыла зацікаўлення яе асобаю, кожны заняты сваімі справамі і думкамі.

Праз паўгадзіны язды ад Саколкі павальней пасунуліся дрэвы за вокнамі, а з паравоза паваліў моцны чорны дым. Цягнік поўз пад гару, тую гару, аб якой казаў Макарэвіч.

Грыгатовіч прабралася да дзвярэй, зыйшла на ступенькі і саскочыла з іх, з бегам цягніка.

Ззаду закрычалі:

— Куды прэшся, дзеўка!?

— Ногі паломіш, замуж не выйдзеш!

— Я з табою пабягу!

— Ха-ха-ха-ха...

— І я!

Іржалі.

Азірнулася і не магла не прыкмеціць, што з усімі не смяяўся толькі адзін: ён замітусіўся ды нырнуў у вагон.

Павеяла холадам.

Налева, пад узлессем, — хатка і дымок, і стары чалавек на парозе. Ён бачыць Марыю.

Падбегла да яго.

— Ці не бачылі майго Яську, гаспадара з-пад Вільні?!

— Мо паясі з дарогі, — азваўся стары. — А да знахара не хочаш?

— Няма чаго цырыгеліцца: за мною сочаць! — ні то сказала, ні то закрычала. Стары заварушыўся. — Хутчэй, дзядзьку!

Ён заліў вадою агонь у печы, дакладна і без спеху. Галавешкі вынес на панадворак, загроб іх снегам. Замкнуў дзверы, памацаў, ці добра.

— Ідзем.

Грыгатовіч адвяла вочы ад чыгункі.

— Ідзем! — да яго.

— Не прамерзнеш? — стары тыцнуў пальцам у яе кароткі кажушок.

— Дзядзьку! — узмалілася яна на ягоную непаспешлівасць.

— Не бядуй, не дагоняць. Ад Чарноўсі сюды, ого, блізкі свет! — пайшоў наперадзе.

Яна — за ім.

(Працяг будзе)

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ПРА ВУЛІЦУ Ў ЧЫЖАХ

**Адказвае:** Naczelnik Gminy w Czyżach, pow. Hajnówka.

Nadmieniam, że przebudowa ulicy we wsi Czyże była wykonywana w latach 1964/65 zgodnie z opracowaną dokumentacją. Remont wykonywał PZDL w Hajnówce. W najbliższych latach nie planuje się przebudowy ulicy z braku środków finansowych. Otrzymane dotacje i fundusz gminy — to znikome środki finansowe, które nie zabezpieczają potrzeb tut. terenu.

Nadmieniam, że mamy 6 wsi, do których całkowicie nie ma dojazdu, dzieci nie mogą dochodzić do szkoły w Czyżach. Na te odcinki dróg będą więc w kolejności przeznaczane środki finansowe. Planujemy w 1976 roku ulicę w Czyżach pokryć smołówką.

Naczelnik Gminy
Jerzy Lewczuk

NIWA Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch" Indeks 36911/36671.

# АЛІГАТАР

Крывакрыса разбудзіў кракадзіл. Сцягнуў коўдру і ляніва прабурчаў: „Уставай! Я есці хачу".

Крывакрыс зябка прыжмурыўся, прыцэліўся і брыкнуў нагою. Але ў кракадзіла не трапіў.

— Адчапіся, — расчаравана прамармытаў ён. — Адчыні халадзільнік і напіхай сабе чэрава. А я яшчэ пасплю.

— Сам жры сырое мяса! Я цывілізаваны кракадзіл, я біфштэксаў хачу. І кавы. Я ўчора цэлую ноч не спаў. Ты ж мяне па ўсім горадзе вадзіў...

— Не націскай на хворую псіхіку! — заламантаваў Крывакрыс. — Ідзі на кухню і насмаж сабе тых праклятых біфштэксаў! І каву можаш заварыць. Не маленькі...

— У мяне запалак няма, — пускаючы слёзы, абражана буркнуў алігатар. — І газавую пліту не ўмею карыстацца...

— Ты мяне да інфаркту давядзеш, сцерва зялёная! Ну, чаго ты прычапіўся? Чаго табе трэба?!

— Не крычы, як істэрычка. Прывёў дамоў — кармі. Або я цябе самога з'ем...

— Добра, я ўстану, але ты пашкадуеш, — пагрозліва кінуў Крывакрыс.

Ён віхрам сарваўся з ложка, кінуўся да шафкі. Дрыжачымі рукамі дастаў пляшку „Экстры" і прагна пахмяліўся.

Кракадзіл знік.

**Аляксандр Казлоўскі**



*— Скажыце на базе, што я выявіў тут маленькую няспраўнасць.*

# ДАВЕДКА

*— Цяпер, браткі, я — Тыгр, — Пацук*
*даведкай трос*
*І тыцкаў кожнаму пад нос.*
*— Хоць клопатаў было нямала:*
*Насію за дакумент і хлеб, і сала,*
*Затое можна без трывогі спаць,*
*Бо Тыгру на катоў цяпер начхаць.*
*Як толькі пакажу даведку і пячаткі,*
*У іх душа палезе ў пяткі.*
*І Тыгра новага ўсе пачалі вітаць:*
*— Цяпер наш Тыгр на ўсіх нагоніць жаху!*
*Аж тут — „Мяў-мяў" — ідзе Руды.*
*Усе пабеглі — хто куды.*
*А Тыгр на месцы ўтрупянеў ад страху.*

*Калі з душою Пацука жывеш, нябожа,*
*Ніякі дакумент табе не дапаможа.*

**Пятро Красюк**



*НОВЫ ПАТЭНТ*



*Для сумяшчальніка.*

### ХТО МІЛЕЙШЫ

— Ой, пагана, суседзе: мая жонка парася больш шануе, чым мяне.

— Адкуль ты гэта ўзяў?

— Калі парася есць, дык Гапка стаіць каля яго ды ўсё прымаўляе: „Паглядзі толькі, як яно хораша есць, а як хорашанька п'е, любае маё парасятка". А як толькі я вып'ю хоць сто грамаў, дык адразу ж крычыць: „О, ужо нажорся, бы свіння".

### СІТУАЦЫЯ

Службовец уваходзіць у кабінет начальніка і выліваe чарніла яму на лысіну. Потым пачынае танцаваць на яго стале. Але тут у пакой заглядае другі службовец і гучным шэптам гаворыць:

— Міхась, спыні! Ты не атрымаў мільён у спадчыне. Мы пажартавалі!



### РАЗМОВА З ГЛУХІМ

„Здароў, Ісаю!" — „Чаек шукаю!" — „Ці яшчэ жывёў здароў?" — „Ды ўжо чацвёра знайшоў!" — „А ці добрая жонка ды дзеткі?" — „А чорт іх зловіць, падлеткаў!" — „Тфу, дурны! Ці вас многа такіх дурняў?" — „Ды чатыры дзежкі маці наскрабла!"

### МІНІВЕРШЫ

#### ЗАМУЖ ЗАХАЦЕЛА

— Пара жаніцца нам,
гляджу я.
— Яшчэ мне не было біды!
На карку ў бацькі сам
сяджу я.
— Дык што ж, пасунешся
тады!

**Мікола Вяршынін**

### ВЫПАДАК

— Уяўляеш, Стась наехаў машынай на дзяўчыну і цяпер жэніцца з ёю!

— Кал б такое здаралася часцей, людзі б ездзілі акуратней.



*— А перадавалі, асадкаў не будзе!*



**Любіў казаць: скромнасці нам не пазычаць.**

**Штосьці сталася з старшынёй: пачаў думаць.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Міколая Варанецкага з Альхоўкі змяшчаем папулярную савецкую песню трыццатых гадоў*

## СПЯТ КУРГАНЫ ТЁМНЫЕ

*(из кинофильма „Большая жизнь")*

**Стихи Б. Ласкина, Музыка Н. Богословского**

Спят курганы тёмные,
Солнцем опаленные,
И туманы белые
Ходят чередой...
Через рощи шумные
И поля зеленые
Вышел в степь донецкую
Парень молодой .

Там, на шахте угольной,
Паренька приметили,
Руку дружбы подали,
Повели с собой.
Девушки пригожие
Тихой песней встретили,
И в забой направился
Парень молодой.

Дни работы жаркие,
На бои похожие,
В жизни парня сделали
Поворот крутой.
На работу жаркую,
На дела хорошие
Вышел в степь донецкую
Парень молодой.

### ПРЫНЦЫПОВЫ ВАХЦЁР

Насыпаў я бак для бялізны пілавіннем. Узняў на плячо і крочу да прахадной.

— Стой! — крычыць вахцёр. — Што нясеш?

— Ды вось трошкі пілавіння хачу дадому аднесці. Цешча ім яблыкі на зіму збірае, перасыпаць, каб даўжэй ляжалі.

— Выносіць нічога не дазваляецца, — не саступае з дарогі вахцёр. — У мяне інструкцыя...

— Але ж колькі таго пілавіння? — кажу я, — Адзін бак.

— Адзін-не адзін, а ўсё роўна не дазваляецца. Ты вынесеш, другі, трэці... Так нічога і не застанецца. Высыпай, кажу!

Высыпаў я тое пілавінне і пайшоў сабе. З парожнім бакам.

...Вось так мне і ўдалося вынесці бак цераз прахадную.

**М. Міраноўіч**

*КАР'ЕРЫСТ У ПЕКЛЕ*



*— Падкінь яму яшчэ. Гэта той, што заўсёды шукаў цёплага месца.*

### НЕ РАЗГУБІЎСЯ

Шафёр гаворыць пасажыру-габраўцу:

— У мяне адмовілі тармазы, і мы ляцім у пропасць!

— У такім выпадку выключыце лічыльнік! — панура адказвае габравец.

### ПЕРАСТАРАЎСЯ

— Да чаго шкада Персана!

— А што з ім?

— Такі быў энергічны і дысцыплінаваны салдат... Калі яму загадалі выкапаць акоп, ён выкапаў яго такім глыбокім, што яго абвінавацілі ў спробе дэзерцірства.

### ЭЛАЧКА

— Элачка, вось табе дзесяць цукеркаў, палавіну аддай брацiку.

— Я яму дам тры штукі.

— Ці ж ты не ўмееш лічыць?

— Я якраз умею, а ён не.

### УДАКЛАДНІЎ

Наведвальнік заўважае афіцыянту:

— Гэты суп нагадвае мне раствор пральнага парашка.

— Дзіўна, гэта адно з нашых найлепшых блюд. А вы, выбачайце, часта п'еце раствор пральнага парашка?



*— У вас, несумненна, склероз.*




### ПЕРАБЛЫТАЎ КНОПКІ

„Я спрабаваў выключыць святло, але мне гэта ніяк не ўдавалася", — заявіў банкаўскі служачы, затрыманы паліцэйскімі ў банку шведскага горада Фрэндэрфорса.

Паліцэйскія, апранутыя ў куленепрабівальныя жылеты і ўзброеныя аўтаматычнымі пісталетамі, прыбылі да месца здарэння праз некалькі мінут пасля атрымання сігналу трывогі.

Пераканаўшыся ў невінаватасці затрыманага, паліцэйскія прыйшлі да заключэння, што банк мае занадта многа прыстасаванняў падачы сігналаў трывогі.

### СЦЕРАЖЫЦЕСЯ ПТУШАК

Штогод у ФРГ больш чым 300 самалётаў атрымліваюць розныя пашкоджанні ў выніку сутыкненняў з птушкамі. Страты ад гэтага складаюць 2-3 мільёны марак у год. Аб гэтым паведаміла ўпраўленне грамадзянскай авіяцыі ФРГ.

Як заявіў прадстаўнік упраўлення, для таго, каб пазбегнуць сутыкненняў, пілотам самалётаў рэкамендуецца радзей рабіць палёты ў раёнах, дзе назіраюцца масавыя пералёты птушак.

### ДЫПЛАМАВАНЫЯ ЦЕШЧЫ

Замест славутага: „шукайце жанчыну" сёй-той канкрэтызуе: „шукайце цешчу". Вядома, вастрасловы маюць рацыю не заўсёды, аднак дыму без агню не бывае...

Ну, а як стаць добрай цешчай? У Афінах для гэтай мэты створаны спецыяльныя вячэрнія курсы павышэння кваліфікацыі. Навучальная праграма разлічана на сем месяцаў. Курсы карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Паспяхова скончыўшыя іх атрымліваюць асобы дакумент і званне „дыпламаваная цешча".




*Калі ў вашай галаве часта праносяцца разумныя думкі, значыць, яны ў ёй не асядаюць.*